Данііл ЖУГЖДА

# ЧАМУ Ў СЛАНЯНЯЦІ ДОЎГІ НОС



**Данііл Жугжда нарадзіўся 6 лістапада 1985 года ў Магілёве. Мае адукацыю мастака і рэжысёра. Піша вельмі мала і толькі тады, калі твор цалкам складзецца ў галаве. Сваю творчую манеру вызначае як гультайны лаканізм.**

*УСТУП*

*«Дрэнная казка, згадзіся!.. Маленькія мілыя хабаценькія сланяняткі не заслугоўваюць такой жудаснай гісторыі... Таму, можа, прыдумаеш сланяняткам лепшую? Буду дужа рада!» Вось што было напісана на апошняй старонцы, вырванай з казкі Кіплінга «Сланяня». Адклаўшы казку ўбок, Ён зноў зазірнуў у скрынку. Тамака былі канверт з лістом і нейкі каменьчык…*

**ДРЭВА БАГОЎ**

Пэўна, гэта быў жарт Багоў. Чаму жарт? А што як не жарт? Бо як могуць Багі крыўдзіцца на людзей, а тым больш помсціць ім? Гэта — Багі, а тое — людзі. Хто кім урадзіўся. Вось, не маючы магчымасці злавацца, Багі з людзей і пажартавалі…

Карацей кажучы, толькі найвышэйшая іронія прымусіла б вырасці дрэва ў пустыні, ды яшчэ на чыгуначным палатне, па якім рушыў цягнік. Убачыўшы такое здарэнне, машыніст з усяе сілы націснуў на тармазы, але дрэва так хутка ды нечакана вырасла, што спыніць спрэчку паміж ім і жалезам маглі толькі Багі, але Яны зацікаўлена маўчалі…

…Паміж рэштак, што засталіся ад палаючага жалезнага цмока, грацыёзна скакала Чорная Котка. Вы скажаце, што тое была велізарная чорная пантэра, але памыліцеся, бо гэта была менавіта котка, толькі значна большая за звычайную (таму што была незвычайнай).

То тут, то там пясчаныя мурашы ды скарпіёны зацягвалі пад зямлю нябожчыкаў. Котка наблізілася да ламачча, што засталося ад вагона нумар тры, і села ля аднаго нябожчыка, захіліўшы сваім ценем яго галаву ад пякучага сонца.

— Данель, уставай! — сказала Яна ціхім, мяккім і незвычайна прыгожым голасам.

Нябожчык расплюшчыў вочы.

— Рана табе, — прамовіла Котка, — бо ты яшчэ не даведаўся, чаму ў сланяняці такі доўгі нос!

Тут Данель, які ўжо перастаў быць нябожчыкам, адразу ўзгадаў мэту свайго падарожжа: што б ні здарылася, даведацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос. Данель падскочыў, але моцны боль ва ўсім целе вырваў з яго вуснаў стогн.

— Цішэй, — усміхнулася Котка, — можа, спачатку пап'еш малачка? — і, не чакаючы адказу, прыхілілася жывоцікам да Данеля.

Данель зірнуў у чароўныя блакітныя вочы і, прымкнуўшы да цмочкі незвычайнай Коткі, пачаў піць малако. Што гэта было за малако!..

Адначасова цёплае і халоднае, яно ўлівалася жыццём у разбітае цела. Баючыся, што чорная выратавальніца можа знікнуць, як мара або здань, Данель ухапіўся за Яе чорную поўсць, а Котка толькі муркатала, задаволена звузіўшы вочы, і то выпускала, то зноў хавала свае кіпцюры.

— Што, малачко п'ём? — спытаў Шэры Локі, які нечакана матэрыялізаваўся на адной галінцы Дрэва Багоў. — Можа, піва? — Локі матэрыялізаваў у руцэ бутэльку «Стэла Артуа». — Яшчэ халоднае!

— Адчапіся, Шэры, — прамуркатала Котка, — забірай, што трэба, і каціся!

— Прабачце, можаце лічыць, што мяне ўжо няма, — сказаўшы так, Локі з'явіўся ля адной нябожчыцы, за якую спрачаліся пясчаныя мурашы ды скарпіёны. — Жыць хочаш? — спытаў Шэры ў нябожчыцы. Тая кіўнула. Тады, схапіўшы дзяўчыну за валасы, Локі разам з ёю знік.

— От, ніяк не нагойсаецца, — незадаволена прамовіла Котка.

Урэшце Данель адарваўся ад цмочкі, але па-ранейшаму трымаў Котку, каб тая не пераўвасобілася, як Шэры Локі.

— Я ведаю, хто Ты!..

— Ну, і хто ж я? — з жартаўлівым здзіўленнем усміхнулася Котка.

— Ты…

## ІСПЫТ

— Ты... — Данель глядзеў на некалькі чорных шарсцінак, што засталіся ў яго далонях... — Ты... — ён усё ніяк не мог вымавіць тое дзіўнае імя... — Ты...

Незвычайная адзінота ахапіла Данеля. Яму здавалася, што ён яшчэ нябожчык, хоць малако ў жываце казала супрацьлеглае.

— Што, знікла? — сказаў, зноўку матэрыялізаваўшыся побач, Локі. — Думаў, што Яна застанецца з табою назаўсёды? Вось дзівак! Простаму смяротнаму павінна вельмі добра пашанцаваць, каб пабачыць Чарнявую другі раз. Ну, чаго ты такі разгублены? Калі б я вяртаў табе жыццё, ты б простым «дзякуй» не расплаціўся, таму радуйся, што Котка паспела. І што Яна ў табе знайшла? Ну, досыць, пайшлі далей! Ведаеш, апошнія здарэнні вельмі зацікавілі тамака ўсіх — кіўнуў ён на нябёсы. — Калі іспыт пройдзе добра, тады ў нас з'явіцца шмат працы...

— Іспыт? — спытаў Данель.

— Так, іспыт, — з гэтымі словамі Локі нацэліў на Данеля пісталет і стрэліў...

Данель расплюшчыў вочы. Над ім стаяў Шэры Локі і разглядваў Трахэнбержскі каменьчык.

— Гэта мой... — ледзь вымавіў Данель. Увесь боль, што быў у ягоным целе, сканцэнтраваўся ў адной маленькай кропачцы — там, дзе сэрца...

— А, апрытомнеў? Віншую, ты прайшоў іспыт, — Локі падкінуў камень да Данеля. — Камяні Трахэнберга валодаюць вялікай сілай, але ў звычайных руках яны нічога не вартыя...

— Навошта ты стрэліў у мяне?

— Гэта і быў іспыт. Калі ты павінен застацца ў жывых, то нават срэбная куля Локі не спыніць цябе. Калі ты сапраўды варты жыцця, то нештачка павінна было зберагчы цябе. У дадзеным выпадку гэта — чароўны камень. Дарэчы, цікава, як ён трапіў да цябе?

— Яго падарыла адна дзяўчына...

— Пэўна ж, не ведала, што дорыць, дурніца. Гэты рарытэт змяняе акалічнасці жыцця на карысць уладара. Калі ў небяспецы ёсць хоць маленечкі шанец застацца жывым — ты застанешся жыць. Але каменьчык маленькі і яго моцы хопіць яшчэ на раз ці два. Карыстайся асцярожна. Наперадзе вялікі шлях.

— Шлях?

— ШЛЯХ! Каб здзейсніць тваё наканаванне. Навошта ты ехаў у гэтым цягніку?

— Каб даведацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос.

— Вось, з гэтага і пачнём. Падымайся!..

**ЛІС**

Пустыня ўжо даўно схавалася за іхнімі спінамі. Камяністыя пагоркі сталі полем, якое неўзабаве ператварылася ў лес.

— Куды мы ідзём?

— Да Непаседы Дыяса.

— Хто ён такі?

— Занадта многа пытанняў, чалавеча. Дыяс сам адкажа. Ён можа адказаць на ўсе пытанні. І хто ён, і чаму ў сланяняці такі нос… Але не трэба расслабляцца, бо спачатку трэба заскочыць яшчэ ў адно месца.

— Ты чуеш? — Данелю здалося недалёкае рыканне і жалобныя стогны.

— А, мусіць грашогі кагосьці зноў заелі. Іх тутака шмат бегае. Хадзем, гэта не наша справа.

— Грашогі?

— Ну, ведаеш, калі нештачка знікае, напрыклад, грошы на мабілцы, то гэта з'ядаюць монстры грашогі. Яны знішчаюць забытыя рэчы і падарожнікаў, якія заблукалі...

— Трэба дапамагчы! — сказаў Данель, і, схапіўшы нейкую ламачыну, пабег на гукі праз хмызняк.

— От, вар'ят! Тут я табе не памочнік! — крыкнуў наўздагон Локі.

Данель выскачыў на пералесак і рынуўся ў мітуслівую гушчу маленькіх валасатых істот. Махнуў сваёй доўбіняй сюды-туды, раскідваючы са свістам грашогаў. Тыя шыпелі ды кусаліся, спрабуючы падскочыць і ўрваць Данеля за горла.

— Прэч! — Данель адагнаў апошняга грашога сучынай куды далей.

Перад вачыма Данеля ляжаў раздзёрты ліс. Цяжка дыхаючы, ён не зводзіў з Данеля блакітных вачэй.

— Усё роўна сканае! — матэрыялізаваўся побач Локі. — Намахаўся ўволю? Тады хадзем!

— Як яму дапамагчы? — Данель глядзеў на ліса, які ўжо амаль не рухаўся.

На баку і шыі было некалькі цяжкіх ран. Кроў аніяк не спынялася. Замусоленая ў брудзе поўсць здавалася чорнай, хвост быў абадраны, лапы, касцянеючы, пачалі дрыжаць, і толькі чыстыя, як празрыстая вада, вочы пільна глядзелі ў шэрыя вочы Данеля.

— Дапамагчы? Ну ты дзівак! — усміхнуўся Локі. — Яго час выйшаў. Хіба ж толькі ў цябе недзе захавалася малако Чарнявай.

— Ты ж выратаваў тую нябожчыцу!

— Тая нябожчыца была з твару нічога, ды ўвогуле… А навошта мне душа гэтае недарэчнае жывёліны? Досыць! Я пайшоў. Даганяй!

Локі знік. Данель сядзеў ля ліса і глядзеў яму ў вочы. Бо нічога іншага не заставалася. Шэрыя вочы поўніліся слязьмі, а блакітныя ўсміхаліся. І ад гэтае простае ўсмешкі Данелю рабілася так балюча і горача…

## СІВЫ ХЕЛЬГ

— Падарыў? — незадаволена спытаў Локі.

— Так! — Данель запыхаўся, даганяючы Шэрага, але яго твар свяціўся ад радасці.

— Глупства! Патраціць Камень Трахэнберга на нейкага паўдохлага ліса!

— Дарэчы, ты мог яго выратаваць сам…

— Дурань!

— Я зрабіў так, бо лічыў, што так зрабіць трэба і…

— Вар’ят!

— …І ніколечкі не шкадую…

— І што ты цяпер будзеш рабіць? — дула пісталета Локі было накіравана ў крупну між вачэй Данеля. — Ты цяпер можаш памерці не тое што ад маёй кулі, — нават ад простага катару! Але ж мы ўжо прыйшлі, — Локі схаваў зброю.

Падарожнікі выйшлі з лесу і сталі перад падножжам вялізнай гары, якая рохкала.

— Бачыш дымок на вяршыні? Гэта Сівы Хельг кіпяціць ваду.

— Мо будзем піць гарбату?

— Тую ваду Хельг кіпяціць са свайго нараджэння. Паспрабуеш хоць кропельку — нават малако Чарнявай табе не дапаможа. Няма мацней атруты за гэтую ваду. Толькі глядзі не навярніся, як будзеш лезці ўверх. — Шэры падскочыў і знік.

— Нешта ты доўга, — пазяхаючы, прамовіў Локі.

— Трэба было як тую нябожчыцу, за валасы! — абліваючыся потам, адказаў Данель.

— Што ты прычапіўся да нябожчыцы? Лепш знаёмся — Хельг. Хельг, гэта Данель.

Сівы Хельг сядзеў спінаю да падарожнікаў на маленькім зэдліку. Перад ім праз расколіну ў камені прабіваліся маленькія языкі полымя. Над агеньчыкам завіс у паветры чайнік, у якім бурболіла змярцвелая вада. Хельг, не адрываючыся ад свайго занятку, кіўнуў гасцям, але, як потым высветлілася, ён так ківаў час ад часу на працягу ўсяго свайго існавання.

— Ну, што стаў? Адлі крыху вады і рушым далей.

Хельг кіўнуў.

— Я не маю ніякае пасудзіны.

— О, чаму ты ўвесь час ныеш? Усё яму не падабаецца: не страляй у яго, сядзі з ім побач да канца сусвету, адначасова збірай яму тару і выратоўвай усялякую

блышывую дробязь, — Хельг кіўнуў. — На, трымай! — Локі працягнуў Данелю бутэльку ад «Стэла Артуа».

Данель, набліжаючыся да чайніка, не ўтрымаўся, каб не зазірнуць у твар Хельгу. Абвіслая сухая скура, запалыя вочы, бяззубы рот, скулы ды нос, якія выпіралі праз тую скуру, стваралі не вельмі добрае відовішча.

— Як ён яшчэ не зваліўся з зэдліка? Гэта ж труп!

Хельг кіўнуў.

— А што яму? Сядзі ды глядзі. Вось і ўсё. Ты лепей паспяшай.

Хельг кіўнуў.

Данель нахіліў носік чайніка, і ў бутэльку палілася самая празрыстая вада, якую толькі бачыў у сваім жыцці.

— А нашто ён гэта робіць? — спытаў Данель, закручваючы крышку.

— Таму што больш нічога рабіць не ўмее.

Хельг кіўнуў.

— Як гэта жудасна!

Хельг кіўнуў.

— Калі не ён, дык нехта іншы. Не забівай галаву.

Хельг кіўнуў.

Данель зірнуў апошні раз на твар Хельга. На імгненне вочы Сівога ажылі. У іх з'явілася неверагодная стома і самота, а скурчанныя пальцы пацягнуліся да бутэлькі Данеля. Бяззубы рот паціху заварушыўся, вызваляючы ціхі шэпт:

— Шпыні… Шпыні ўшо гэта…

Але рука Хельга зноў апусцілася, а вочы па-ранейшаму ўтаропіліся на чайнік.

— Бывай, стары! — развітаўся Локі.

Хельг кіўнуў.

## НЕПАСЕДА ДЫЯС

— «Лазня», — прачытаў Данель літары на шыльдзе. — Нам сюды?

Яны стаялі перад маленькім драўляным будынкам. Праз запацелае шкло вокнаў нічога не было відаць.

— Заходзь, — прамовіў Локі.

Пераступіўшы парог, Данель застыў у нерашучасці: кафля… усюды была багатая кафля. Кафляй абліцавана велізарная зала, у якой месціўся агромністы басейн. Святло трапляла зверху, праз вялікія круглыя ілюмінатары ў даху. Пасярод басейна плаваў драўляны плыт. Побач з вялікай бочкай на плыце стаяла крэсла з чырвананосым Непаседам Дыясам, які ляніва махаў трызубцам.

— Прывітанне, Дыяс! — Локі сеў на борцік басейна, спусціўшы ногі ў ваду. — Усё сінячыш?

— Жыццё такое! — усміхнуўся Дыяс і пачаў, нібы вяслом, грэбці трызубцам да борціка. — Што, Данель, маеш пытанні да мяне?

— Так, — Данель сеў побач з Локі.

— Відаць, сёння давядзецца аднаму піць, — уздыхнуў Непаседа.

— Чаму так, а мы? — здзівіўся Локі.

— Ну, Данель адмовіцца, а на цябе, Шэры, толькі пітво марнаваць.

На вечку ад бочкі, што стаяла на плыце Дыяса, знаходзіліся графінчык і тры гранёныя шклянкі. Непаседа начапіў графінчык на свой трызубец і зачэрпаў вады з басейна. Патросшы ваду ў графінчыку, ён наліў крыху ў шклянку.

— Ну, за нагоду! — заплюшчыў вочы ды залпам гэтую шклянку асушыў. Дыяс моцна зажмурыўся, торкнуў трызубцам у сярэдзіну бочкі, выцягнуў адтуль сушаную рыбіну, занюхаў ёю і кінуў зноўку ў бочку.

— А вось цяпер можна пачынаць, — лагодна ўсміхнуўся Дыяс. — У цябе ёсць тры пытанні!

— Тры? — здзівіўся Данель. — Трэба прыдумаць астатнія два… Так… Першнаперш, адкажы, чаму ў сланяняці такі доўгі нос!

— Гэта лёгка! У даўнія часіны, мой даражэнькі, слон не меў хобата. У яго быў толькі чарнявы тоўсты нос, памерам з бот, які хістаўся з боку ў бок, і падымаць ім слон нічога не мог. Але з'явіўся на свеце адзін…

— Не, гэтую байку я ведаю! Адна мая знаёмая прасіла мяне даведацца сапраўдную гісторыю.

— Сапраўдную гісторыю? — Непаседа Дыяс перайшоў на шэпт. — Малады чалавек, некаторыя веды не прыносяць нічога, акрамя болю… Ёсць на свеце таямніцы, якія мусяць такімі застацца. Ты ўпэўнены, што хочаш гэта ведаць?..

— Дарэчы, Локі, гурыі ў трэцяй зале, — Дыяс наліў яшчэ ў сваю шклянку.

— Вось з гэтага і трэба было пачынаць! — адразу ажывіўся Локі. — Не буду вам перашкаджаць, — з гэтымі словамі Шэры знік.

— Раней у сланяняці сапраўды быў нос як бот, — распачаў Непаседа, — а болей за ўсё на зямлі яно любіла кветкі! І была адна ружа, да якой сланяня ўсё ніяк не магло дабрацца, бо расла гэтая ружа ў непралазных і вельмі вострых калючках. Як бы ні старалася сланяня, але ўвесь час ружа заставалася далёка, а яно само было пасля вельмі моцна пакалата. Ад такое бяды перастала сланяня есці і піць. За гэта родныя ўвесь час сварыліся з ім:

— Патрэбна табе гэта зелле! Зноў прыйшло парэпанае. А ўсё праз твой дапытлівы нос!

— Нос! — ускрыкнула сланяня і, расцалаваўшы родных, наступіла сабе на нос і пачало, нягледзячы на вялікі боль, выцягваць яго. Церпячы пакуты, сланяня ўсе выцягвала і выцягвала свой нос, пакуль той не ператварыўся ў хобат, якім, нарэшце, яно змагло дастаць да тае ружы.

Некаторы час Данель сядзеў моўчкі, знаходзячыся пад уражанем.

— Толькі памятай, — вымавіў Дыяс, — што гэта адна з тых таямнічых таямніц, пра якія я табе казаў. І чым меней людзей будзе пра гэта ведаць, тым болей людзей будзе добра спаць. У цябе ёсць яшчэ два пытанні…

— Раскажы пра Чорную Котку!

— Пра Чорную Котку? Хм… Добра, слухай.

Жыла аднойчы багіня Сакрысція. І падпарадкоўваўся Ёй ветрык, што вырывае з рук парасоны ды скідвае з галоў капелюшы. Была гэтая багіня прыгажуняй з доўгімі валасамі, якія, нябачнымі пасмамі ахутваючы ўвесь свет, стваралі гэты самы ветрык. Пакахала Сакрысція Дартарыеля — бога навальнічнага дажджу і грымот. Але Дартарыель здрадзіў Ёй. Не вытрымала таго Сакрысція. Абстрыгла свае чароўныя валасы і разарвала сваё сэрца на тры кавалкі. Паляцелі гэтыя кавалкі на зямлю і сталі Дабрынёю, Мудрасцю ды Жаноцкасцю. Пабачыўшы, што нарабіў, Дартарыель спусціўся за тымі кавалкамі на зямлю. Так Ён і блукае па зямлі, спрабуючы знайсці сэрца Сакрысціі. А Чорная Котка — гэта і ёсць Жаноцкасць.

— Адкуль ты ўсё ведаеш?

— Ну, жыццё такое. Чаму людзі п'юць? Быццё дрэннае, а моцы змяніць усё няма. Нават часцей не хапае моцы каму-небудзь пра гэтае быццё распавесці. Таму

трэба напіцца, каб язык самлеў, і сябра знайсці (а лепей — двух), каб паразмаўляць пра ўсё. А калі мець слых, дык можна шмат чаго пачуць цікавага за век паўбога, — Дыяс лагодна ўсміхнуўся і наліў зноўку сабе ў шклянку. — Ну, за быццё! — і выпіў.

— А ці знойдзе Дартарыель сэрца Сакрысціі?

— А ці ўмееце вы лічыць, малады чалавек? — Дыяс занюхаў сушанай рыбінай. — Ваш ліміт пытанняў скончыўся. Ды і час вам ужо збірацца. Праўда, Локі?

— Так! — матэрыялізаваўся побач Шэры. — Пайшлі, Данель!..

— Калі ласка, адкажыце! — прасіў Данель.

— Дай мне сваю правую руку, Данель, — прамовіў Дыяс… — Што тут напісана?

— Але тут нічога няма!

— А калі прыгледзецца?

— Так, тая дзяўчына, што дала Трахэнбержскі Камень, нештачка напісала маркерам. Але я не ведаю ісландскай!

— А ты чытай між радкоў!

— Дык тут толькі адзін радок…

— Так, малады чалавек, даю табе параду. Слухай уважліва: часам няважна, што зроблена, а важна тое, навошта гэта зроблена. Болей нічога не скажу! Бывайце!

Локі перахапіў у Непаседы руку Данеля.

— І куды мы цяпер рушым? — Данель утаропіўся вачыма ў тое, што засталося ад літар на руцэ.

— А куды б ты хацеў прыйсці?

— Да дзяўчыны, каб расказаць ёй пра сланяня.

— Вось і хадзем туды!..

## СУСТРЭЧА

— Я бачу, ты рамантык, Данель, сустракаешся з дзяўчынай на могілках.

— Бо тут значна лепей, чым у горадзе: няма грукацення машын ды гоману людзей. На могілках усё проста. Спакой, цішыня, адзінота… Гэта ўсё можна знайсці тут, калі табе патрэбна. Але ж вось і яна.

— Я пачакаю тут, — сказаў Локі.

Данель падышоў да дзяўчыны і сеў побач з ёю на лаву.

— Прывітанне!

— Прывітанне, я — Юліна!

— Што?

— Такое маё імя — Юліна. А як тваё?

— Хіба ж ты мяне не памятаеш?

— А мы раней ці бачыліся?

— Так! Ты падарыла мне Камень Трахэнберга і прасіла дазнацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос. Каменя ў мяне ўжо няма, але гісторыю сланяняці я ведаю…

— Які ты смешны! Выдумаў нейкі камень, але пра сланяня будзе цікава паслухаць.

— Пачакай мяне крыху, я зараз, — ледзь прамовіў Данель ад здзіўлення, падняўся з лавы і падышоў да Локі.

— Ну, як справы? — праз усмешку звярнуўся да Данеля Локі.

— Яна не памятае мяне!

— Ды няўжо? Як такое магло здарыцца?

— Нібы размаўляў з іншым чалавекам!

— Хочаш, каб яна ўсё ўспомніла? — запытаўся Локі. — Ёсць адзін сродак! — Шэры працягнуў Данелю бутэльку «Стэла Артуа».

— Піва?.. Што?!. Не! Як ты можаш так жартаваць?

— Што такое жарт, як не сумленнае фізічнае дзеянне, накіраванае на дасягненне пастаўленай мэты? А цяпер у цябе адна мэта…

— Але гэта заб'е яе!

— І што з таго?..

— Адкажы мне на адно простае пытанне: чаму ты, на сваю галаву, сеў у цягнік? — працягваў Локі.

— Трэба было ехаць…

— Каб даведацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос? — Гэта проста смешна! Сур'езны чалавек павёў сябе як дзіця, ганяючыся за адказам на дзіцячае пытанне; ганяючыся за марай, за казкай! Навошта?

— Яна прасіла…

— Вось! Вось яно! Што б ты зрабіў, калі б цябе папрасіў пра гэта нехта іншы?.. Але ёй ты не адмовіў! Чаму?

— Ну… Яна…

— Заплюшчы свае вочы. Адкажы, што ты бачыш, калі ўзгадваеш яе?

— …Усмешку!.. Не!.. Вочы!.. Блакітныя вочы! Чыстыя, як самая празрыстая крыніца, і глыбокія, як самая велізарная бездань!..

— Можа, ты не адмовіў ёй таму, што яна падарыла табе маленькі каменьчык? — Не! Ты не адмовіў ёй таму, што яна прыгожая, мілая і ДОБРАЯ!

— Яна?.. ЯНА!..

— Так, Данель, ЯНА! А цяпер адкажы мне на яшчэ адно пытанне: што трэба зрабіць са скарбонкаю, каб дастаць адтуль грошыкі?.. Яе час на зямлі ўжо скончыўся. Нябёсы чакаюць вяртання Бога. Ведаеш, калі Бог жыве ў чалавечым целе, Ён можа вярнуцца, толькі пазбавіўшыся ад кволае абалонкі. Але ёсць адно «але» — нявыкананыя пры жыцці справы зноў і зноў прыцягваюць да гэтае зямлі. Таму ідзі да Яе і раскажы пра сланяня. Яна так хацела пачуць гэтую гісторыю…

Данель знямелымі рукамі ўзяў бутэльку.

— Але ж ёсць яшчэ Чорная Котка і Ліс… Яны з Юлінай складаюць адзінае цэлае…

— Пачакай крышачку… — Локі на імгненне знік, потым матэрыялізаваўся. — Пра што ты казаў? — у руках Локі дымеў ягоны пісталет. — А, ужо ўсё роўна, — выкінуў з барабана дзве пустыя срэбныя гільзы. — Дарэчы, Яна ўспомніць цябе, бо ў час смерці перад вачыма паўстае ўсё жыццё. Так розум шукае выйсце ў цяжкіх абставінах. Розум абапіраецца на жыццёвы вопыт. Але ад смерці выратавання няма… Яна чакае…

— Мо ты хочаш піць? — Данель стаяў увесь збялелы. Яго пачынала біць ліхаманка.

— Піва?

— Не, тут… ВАДА…

— Тады можна. Сядай побач! Ты хацеў расказаць, чаму ў сланяняці такі доўгі нос?!

— Так!.. — пабачыўшы, як Юліна зрабіла глыток, Данель апусціўся на лаву ля Яе. — Было гэта так: жыло на свеце сланянятка, якое любіла кветкі… — Ён працягваў. Юліна зрабіла яшчэ глыток… — І была адна ружа, да якой сланяня не магло дабрацца… — яшчэ глыток. — Бо расла яна ў непралазных калючках. І тады…

— Ты такі збялелы. Выпі вады! — прапанавала Юліна.

Данель успомніў пра Камень Трахэнберга, паглядзеў на Шэрага Локі — той кіўнуў… Данель узяў бутэльку абедзвюма рукамі… Велізарны ком засеў у горле і было складана глытаць. Тая ВАДА была халоднай і незвычайна цяжкай. Можа, праз тую цяжкасць ЯНА прасачылася скрозь ком туды, куды Ёй было трэба…

— …І тады сланяня наступіла на свой нос і, церпячы пакуты, выцягнула яго ў хобат… — бутэлька выслізнула з рук Данеля і разбілася. ВАДА пацякла па зямлі да бліжэйшае магілы. Локі зноў кіўнуў. — …Каб толькі дабрацца да тае ружы… — Данель зазірнуў у вочы Юліны.

Ліхаманка адпусціла яго. Стала лёгка, як ад дзівоснага малака Чорнае Коткі. Яны з Юлінай глядзелі ў вочы адно аднаму. Неўзабаве вочы яе пачалі змяняцца: празрыстасць стала больш празрыстаю, а глыбіня — больш глыбокаю. Праз тыя вочы на Данеля глядзела бясконцасць! Бровы Юліны ўзняліся. Яна прытулілася да Данеля, абняла яго рукамі і ціха прашаптала:

— Ты прыйшоў… Дартарыель!..

— Што?! — перад вачыма Данеля пачалі з’яўляцца дзівосныя карціны, і самая дзівосная з іх — чароўныя блакітныя вочы з-пад даўгіх валасоў.

— Так, Данель, нам патрэбны ты! — усміхаўся Локі. — Ну, не ты, а нехта іншы, але таксама на «Д»!

— А яна?

— А яна памерла. Я не папярэдзіў цябе? Ой, прабач! Яна зрабілася смяротнай, як толькі пакахала Дартарыеля. Багі кахаць не ўмеюць. Чамусьці гэта не падабалася Сакрысціі. Вось яна і…

— Памерла?!

— Усё роўна, навошта нам Багіня ветрыку, які вырывае парасоны з рук і зрывае з галоў капелюшы? Нам патрэбен Дартарыель — Бог навальнічнага дажджу і грымот! Ведаеш, цяпер вельмі цяжка прымусіць людзей верыць. Толькі катаклізмы здольныя разварушыць смяротных. Ад часін Ноя нікога не было лепшага за цябе!

— Але гэта бесчалавечна!

— Маеш рацыю!

— Чаму вы не забілі мяне адразу? Навошта гэты ШЛЯХ?

— А забівалі… І не аднойчы! Але ж ты кожны раз вяртаўся да гэтае абалонкі. Вось і вырашылі даць табе скончыць твае зямныя справы, — Локі паказаў на цела Юліны. — Тым больш, цяжка забіць уладальніка Трахэнбержскага Камня.

— Ты мяне падмануў!

— Ды няўжо? А ці я сказаў штосьці не тое? Я сказаў, што нябёсы чакаюць Бога; хіба ж я называў пэўныя імёны?

— Юліна!.. Сакрысція!.. Што я нарабіў?! — Данель схіліўся над целам. З яго шэрых, як хмары, вачэй ліліся буйныя слёзы.

— О! — пазнаю старыну Дартарыеля! Чым ты незадаволены? Столькі вясёлых прыгод: спачатку — аварыя цягніка, потым — грашогі, Хельг, Дыяс! Ты знайшоў Юліну, Чорную Котку і Ліса; даведаўся, чаму ў сланяняці такі доўгі нос! — Хіба ж не гэтага ты жадаў?

Але Данель яго ўжо не чуў…

## ЭПІЛОГ

— Уставай, Дартарыель. Як я і казаў, у нас шмат працы.

…Дартарыель!

…Дартарыель?..